Poczta opłacona ryczałtem.

**Цана аднаго № 35 гр.**

**№ 1.** Нядзеля, 18 Студня 1925 г. Год II.

# АВАДЗЕНЬ

ДВАТЫДНЁВІК КРЫТЫКІ, ЖАРТАЎ і СЬМЕХУ.

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: | ПАДПІСКА: |
|---|---|
| **Wilno, ul. Zawalna 7, przy księgarni.** | З дастаўкай да хаты: на 3 мес. . 1.80<br>За граніцу ўдвая даражэй. |



## Ня зжыліся.




Сялянін. — Думаў што ты загінула... Кудыж ты ад мяне?!
Доля. — Іду ўпрочкі, бо ты толькі пьеш гарэлку ды сьпіш.

## Да чытачоў.

Выйшла першая газэта
Гумарыстыкі у нас,
Усім помніць трэба гэта,
Што—падпіску рабіць час.

Перадплата ёсць малая,
Дык зусім бяз рыску
Няхай кожны пасьпяшае
Прыслаці падпіску.

Прысылаць можна штодня
У рэдакцыю да нас
Хто вось хоча „Авадня“
Дома бачыць кожны раз.

Бо для гэтае драбноты
Ня трэба багацьця:
Злоты восемдзесят грошы
На ўвесь квартал хваце.

Мы дагэтуль пасылалі
Шмат каму на пробу
І падпіскі ўсё чакалі,
Ці якуюсь згоду.

А цяпер дык слаць ня будзем,
Усім заяўляем,
Хто з аплатай замарудзе,
Больш не пасылаем.

*С—іч..*

## Філёзаф і Сафіст.

**Філёзаф.** — Кажу табе, што вера бяз услуг усёроўна што — нічога.

**Сафіст.** — А я кажу табе, што услугі бяз веры — усёроўна што — нічога.

**Філёзаф.** — Кажу табе, што з вады бяз мукі хлеба ня будзе.

**Сафіст.** — А я кажу табе, што з мукі бяз вады хлеба ня будзе.

**Філёзаф.** — Кажу табе, што абаранка бяз дзіркі ня зробіш.

**Сафіст.** — А я кажу табе, што дзіркі бяз абаранка ня зробіш.

**Філёзаф.** — Кажу табе, што дзірка бяз абаранка — усёроўна што — нічога.

**Сафіст.** — А я кажу табе, што абаранак бяз дзіркі — усё роўна што — нічога.

*б—а.*

## Павіншаваньне ўласьніка дому—свайму дэкрэтнаму кватэранту.

Віншую вас з Новым Годам і жычу вам усяго найлепшага, каб вы мелі дзесяць дамоў і ў кожным доме каб было па дзесяць кватэраў, у кожнай кватэры—па 10 пакояў, а ў кожным пакоі—па 10 ложкаў і каб... вас трасца перакідала з аднаго ложка на другое. *Ш.*

## Толькі адну...

— Чаму гэта ты так многа гэтай гарэлкі пьеш?

— Як многа? Я толькі адну чарку выпіў!

— Як адну! Калі ты пры мне ўжо ажно дзесяць выжлактаў!

— Далі пан, дзіўны ты чалавек, як паглядзіш на цябе. Калі я выпіваю першую чарку гарэлкі, дык станаўлюся саўсім другім чалавекам, ну, а другому чалавеку, так сама, ціж ня трэба выпіць?! *Ш.*

## Толькі-б памірыцца...

Раз такое меў здарэньне,
Мушу я прызнацца:
Ухаце нейкае нуджэньне,
Выйшаў пабадзяцца.

Іду сабе, разважаю;
Мінуў Іцкі краму;
Ажно зараз спатыкаю
Я нейкую даму.

Падабалась мне аднака,
А больш—белы зубкі;
Дык па глупству-й даў бусяка
У ружовыя губкі

Глядзі—дама захацела
Гонар паказаці:
— „Як ня стыдна гэтак сьмела!
Тож трэ запытаці“!

Але я ня думаў многа,
Ні хацеў сварыцца:
Даў бусяка ей другога —
Толькі-б пагадзіцца.

*С. Крапіва.*

## На зьезьдзе беларускіх вучыцялёў.

— Каго-ж на віцэстаршыню?

— Андрэйчыка!

— Отказываюсь: я не владею беларуским языком.

— Не важно! Просім, просім!

— А што з тэлеграмай пасольскаму клюбу?

— Незашта дзякаваць: адно толькі палітыкай займаюцца.

— Мае слова Лапаць.

— Так... но... позвольте... мне легче порусски.

— Просім, просім!

— Чародны дакладчык з Дзісеншчыны.

— Курсы нужны. Ведама, мы самі беларусы, но не владеем своим родным языком...

— Дакладчык слонімскі.

— Хоть мы беларусы, но свою мову мало знаем, надо отшлифовать. Стаю за курсы ў Вільні.

## Ня поп, а дзяк...

Насьпяваўся папоў сын
Праз Сьвята даволі,
А па Сьвятах ён махнуў
Вучыцца да школы.

А сяляне спадабалі
Што добра сьпявае;
Вось стараста адзін раз
Бацюшку й пытае:

„Кім зробіцца ваш паніч,
Як ён выйдзе ў людзі“?
— „Кім? Вядома што папом, —
Папом добрым будзе“!

— „Шкада яму быць папом!—
Мужык прамаўляе:
— З яго добры быу бы дзяк: —
Прыгожа сьпявае.

*Склют.*

## У вагоне.

Кандуктар да падарожнага.

— Пане, тут ня можна курыць!

— Дзеля чаго?

— Вагон для тых, хто ня курыць, — надпісу пан ня бачыць?

— Бо такі дым у вагоне ад табакі, што не магчыма чытаць!

## Што каму баліць.

Каля труны плачуць дзеці:
„Матулячка-маці!
„А хто-ж цяпер нас без цябе
„Будзе гадаваці.
„Хто ў хатанцы нас дагледзіць,
„Хто нас прыкахае?

Мужык стаіць і слухае,
Цяжэнька ўздыхае...

„З кім наш татка будзе спаць?“

Ен аж пахіліўся:

„Але ж праўда, мае дзеткі!“
І сьлязмі заліўся...

*Склют.*

## „Цымус" са старых друкаў.

### Сьвятая праўда.

— „О, колькі гора з водкі ў нас!
Хто з ёй ня стаў гол, як той кол? —
Сказаў з павагай Апанас.
Паўкварты стаўлючы на стол.

— „Сьвятая праўда, мой кумок“,—
З павагай Юрка патакнуў,
І ляк скідаючы на бок,
Другую кварту адаткнуў.

*Я. Купала.*

### Спанатрыў.

Званар, у часе землятрасеньня, пачуўшы, што вежа дрыжыць, схіліўся ўніз праз балясы дый крычыць:

— Які там чорт званіцу трасе?!

### На судзе.

**Судзьдзя да падсуднага.** — Вас вінавацяць, што вы хацелі ўкрасьці грошы са скарбонкі для бедных. Як вы адважыліся гэта рабіць?

**Суджаны.** — С прастаты сваей, ваша высакародзе... Іду я гэта, ажно бачу, вісіць скарбонка „для бедных“... Я, значыцца, як чалавек бедны, узрадаваўся, ну дык хацеў узяць сваю часьць.



# Беларуская мудрасьць.

ЗАГАДКІ.

1. Дзе зімуюць віраб'і?
2. Куды лятуць усе птушкі у восень?
3. Як глыбока вада у моры?
4. Што трэба зрабіць каб у хату увайсьці?
5. Што станецца з лёнам калі ён даспее?
6. Што сьвіньня надта любіць?

РАЗГАДКІ.

6. Рылам рыць.
5. Пажаўцее.
4. Парог пераступіць.
3. Аж да дна.
2. Наперад.
1. На бацькаўшчыне.

*о—о.*

## У краме.

— А за йголку сколькі?
— Тры гропы.
— Наштож так дарага!
— Ну, а колькіж твая цана?
— Хтож яго ведая! Добра былоб згадаць, ды не ашукацца. Ні люблю я таргавацца.
— Запрос у кішэнь ні ляціць.
— А чамуж у каапэратыве цана бяз торгу?
— Затояж і банкроцюцца каапэратывы...

## Аб курэньні.

— Навошта мужчыны куруць?
— Каб паказаць упадак свае волі.
— А навошта кабеты куруць?
— Каб паказаць. што яны хочуць таго самага што і мужчыны...

## Філязофія нідавучкау.

— Чаму крапіва кусаецца?
Свацьця у свацьці пытаецца.
А тая адзываецца:
— Бо крапівай — называецца!
— А чаму крапівай называецца?
Ізноў першая пытаецца.
А другая адзываецца:
— А таму, што — кусаецца!

## Пісьмо семінарыста

(маскоўскімі славамі, польскімі літарамі).

Dnia 15.1.1925.
Warszawa,
ulica..................d. № 5.

KUM i KUMA!

Moja mama w Warszawie i ja tam. Nasz dom-osobniak papa otdał mnie. Tak miło, tak miło u nas!. W oknie widzisz niebo, pole, owcy. Pogoda. Dzień jasny. Ciepło. Na ulicach szumno. pod nogami czysto· Narodu miljony i starych, i małych i t. d. W oknach ceny. Brat kupił chleba, masła, jagod, — jest czem ugościć. Rad ja widzieć was u nas. Kto na woz, kto na konia i — marsz do ulicy ................, a tam — ja podam swoj automobil.

*Iwanow.*

## Стыдна казаць.

— Як тая называецца, што ў балоце купаецца?
— Гм... Стыдна казаць...
— А як той называецца, хто водкай співаецца?
— Таксама...

* * *

1 пастух. — Адкуль на сонцу гарачыня?
2 пастух. — Ад сьвятла.
1 пастух. — А сьвятло?
2 пастух. — Ад гарачыні.

*б—а.*

## Затрымаў стары стыль.

Наш удалы „Авадзень"
Крыху прыпазьніўся.
Але трудна: ен, бядак
З старым стылям зжыўся.
Але ўжо надалей пільна
Йон будзе старацца,
Каб да новага—ткі стылю
Усё-ж датасавацца.

*С. К.*

## Нашы знамянітасьці.



# Апякуны.



## Што фальшыва— тое нешчасьліва.

Камэдыя ў 3-х актах.

1. БАЗЫЛЕВІЧ — бацька.
2. АЛЯІЗЫ — сын г. 15.
3. ЯНКА — сын г. 18.
4. ЮЗЮК — сын — г. 10.
5. ДАЎГАНОСІХА — матка.
6. МАТРУНКА — дачка г. 18.
7. ПРОСКА — дачка г. 25.
8. ПАЛІЦЭЙСКІ.

### АКТ I.

Мяшчанская скромная хата, каталіцкі крыж і абраз.

### ЗЬЯВА I.

(Янка і Аляізы за сталом палуднуюць, першы жве паважна, другі хапае цалком).

Аляізы. — Ці пойдзеш ты да Матрункі?

Янка. — Пачакаю да вечара, бо запрасіў сёньня яе да мяне прыйсьці.

Аляізы. — А ня будзе яна стыдацца першым разам!

Янка. — Ня ведаю.

(Праз дзьверы ўбегае Юзюк).

### ЗЬЯВА II.

Тыя самыя і Юзюк.

Юзюк. — Нейкая паненка ля варот ходзіць узад ды ўперад... Можа гэта да цябе, Янка?

(Браты значна пераглядаюцца; Янка ўскочыў і пабег з хаты. Аляізы стол спрытна парадкуе).

### ЗЬЯВА III.

(Адчыняюцца дзьверы: Янка цягне Матрунку за рукі, тая стыдзіцца, упіраецца і нешта шэпчэ).

Янка. — Хадзі, Матрунка, ня ўпірайся.. (Здымае капоту з яе, яна баязна абглядае хату, вітаецца з Аляізым, які нахлабучыўшы шапку зьбяраецца выйсьці).

Янка. — Ну, куды ўцякаеш?

Аляізы (сьмяецца). — Яж, так сама пайду шукаць сабе пары! (выходзіць):

Матрунка (жыва пачынае). — Я так баюся, Яначка—мой мілый, каб бацькі твае не надыйшлі...

Янка. — З якой гэта прычыны?

Матрунка. — Мне стыдна... Я дзіўлюся маей сёньняшней адвазе... (размышляе голасна) Гэтаж да кавалера... Зайсьці ў дом...

Янка. — Ты-ж павінна зжыцца з думкай што, ці рана, ці позна, будзеш маей жоначкай, дык чаго стыдацца бацькоў?

Матрунка. — Усёткі стыдна цяцер... Яшчэ...

Янка (абымае яе). — Ты, маё золацца! Пасядзі крыху тутака, а я папрашу маму падсмажыць яешню... Добра?

Матрунка (адна аглядае вачмі хату). — Ах, як мяне да Яначкі даражэнькага цягне! Сама ня ведаю, што са мной робіцца... Трачу розум, часамі, а і стыд, як, хоцьба, і цяпер... (Глядзіць на абразы ўздыхае ды апушчаецца на калені) — Божачка літасьцівы! Памажы мне ў жыцьці! Ты бачыш, што Яначка даражэй дзеля мяне за ўсё на сьвеце... (размышляе)... І прыйшла я сюды, бо сэрца ня вытрымала, ірвецца да яго...

Голас Базылевіча (за дзьвярмі). Ці Аляізы ў хаце?

Голас Маткі. — Не, здаецца выйшоў!

(Матрунка паднімаецца ўстрывожэнна з кален і, ў страху, кідаецца. шукаючы сховы; урэшце, схапіўшы капоту сваю, залезае пад ложак).

### ЗЬЯВА IV.

(Уваходзіць Базылевіч цяжка, з піпкай у зубах).

Базылевіч. — А і праўда—нікога німа... (падумаўшы). І гэтай дзяўчынкі... Сам бачыў як праз панадворак бегла... (Абглядае ўсе куты, і, супако-

іўшыся, распранаецца паціху з пінжака і моліцца Вогу... Часам вырываецца з уздыханьнем): „Зьмілуйся Божачка, памажы нам! Дай усім на сьвеце шчасьця і долі!" (Кладзецца спаць і думае ў паўголаса): — Калі гэта я даждуся, каб мець добрый, абшырный будынак,—асобную спальню меўба сабе... І ня шкодзіло б мне, што Аляізы і Янка з дзяўчатамі басьцяюцца і будзюць мяне, часам а паўначы... І спаў бы я, у асобнай сваей спальне, як сьвяты турэцкі.. (сьмаецца з сваіх думак, уздыхае) — Божа, наш Божа... (сьпіць).

ЗЬЯВА V.

Уваходзінь Янка з яешняй на скварадзе, віном і хлебам. Дзівіцца, што німа Матруны. Стаўляе ўсё на стол, шукае па куткох і, праз мінуту, цягне яе з пад ложку. Матрунка трывожліва азіраецца на Базылевіча. Багатая міміка з абодвых бакоў; Матрунка адмаўляецца ад ужыцьця ядоміны і на цыпачках выходзіць за дзьверы — за ей Янка.

(*Заслона*).

## АКТ II.

Хата Матрункі прыгожа абстаўлена, праваслаўныя абразы на куту—з лямпкай.

ЗЬЯВА I.

(Проска закрывае ложак).

Проска. — Бог ведае, цэлую ноч ні было яе... У садку, у будцы, сядзіць ды сумуе па Янку.

ЗЬЯВА II.

Уваходзіць Матрунка пахіліўшы долу галаву.

Проска. — А, дзякуй Богу і ты прыйшла! (трывожліва) Але што з табой?!

Матрунка. — Сумна — маркотнеька мне.. (плачэ ціха). Ні маю ахвоты жыць... Бяз яго, здаецца, сьвет нічога не варты! (бязнадзейна)! Атруціцца ці што?...

Проска. — Што за карысьць з гэтага?, Ні яму, ні сабе.. ((сьцеліць)... А, ведаеш Матрунка, якая думка у мяне зьявілася?! (падбегае).

Матрунка (бязнадзейна) — Ці паможэ яна мне...

Проска.—Атруціся ты, Матрунка, сьмехам, дзеля пробы!

Матрунка. — Як гэта?

Проска. — Добрая думка! Вось нашмаруй сабе твар чым белым, пад вачмі зроб сіня, каб быў выгляд мучэніцы і ляж на ложку!

Матрунка (ажывае). — Ну, ну!

Проска. — Я ўраз жа бягу за Янкам і перастрашэнна паведамлю яго аб тваім, нібы, атручэньні з вялікага каханьня... Кладзіся Матрунка...

Матрунка. — Гм... Плян добры, каб толькі выпаўніць добра...

Проска. — Параскідай рукі — ногі... Вочы уталоп у вадно мейсца і будзе добра!

Матрунка (рада). — Ну, спрабуем. Бяжы, даражэнькая... Мо як ратуемся.. (разпранаецца ды кладзецца у безпарадку).

Проска (падпраўляе). — Вось так... Вось гэдак... Валасы распусьці, вочы заплюсьні... Ну, а я бягу! (выбегае).

Матрунка (адна). — Ці вытрімаю толькі гэдак?! Каб не засьмяяцца, барані Бог! Тады усё прападзе (устае)... Плян добры, але нікчэмны... Я не вінавата, Яначка, што цябе кахаю. Усё дзеля цябе зраблю (шмаруе твар). А, а! ужо як труп... Спужаецца бедны... Трэба-ж горкага чаго колечы выпіць... каб зморшчыцца праўдзіва... (дастае палыноўкі і пустую, з пад вуксуса, бутэльку). Вось гэта,—нібы, выпіла, (кідае на падлогу), а з гэтай выпьем! пье, хавае, кладзецца).

ЗЬЯВА III.

Уваходзіць матка.

Матка (трывожліва). — Што з табой, Матрунка? Божа!

Матрунка (ціха)... Вады...

Матка (прыглядаецца у твар, выбегае).

Матрунка (адна) — Ха, ха, ха! Значыцца добра выходзіць!

ЗЬЯВА IV.

Шпарка уваходзіць Янка.

Янка. — О, Божа! З якой прычыны? Што з вамі, Матрушачка?

Матрунка. Вады, Яначка мілы...

Янка. — Ах, ратаваць як небудзь! (бегае). Вады, хто жывы!

Матрунка. — Вады, міленькія, родненькія.. Ай пячэць!

ЗЬЯВА V.

(Матка з вадой).

Матка. — Нешчасьце!..

Янка. — Добры дзень, скарэй вады!

Матка (дае воды).

Янка (ступае на бутэльку) — Што гэта! (падымае)... А!!! вуксусу выпіла! Цэльную бутэльку...

ЗЬЯВА VI.

(Тыя самыя; уваходзіць Проска).

Проска (да Янкі, змарыўшыся). — Не магла патрапіць за панам ўсьлед... Гэдак шпарка бег... (клапатліва) ..Мусіць позна ўжо?

Янка (да Матрункі). Матрушачка, дарагая... Як цябе... Чым цябе ратаваць? Ах, усё алдаў бы! Невядома якую ахвяру з сябе ўчыніў бы!..

Матрунка — Вады... На міласьць... Пашліце за Яначкам.. Заміраю...

Матка. — Божа мой! Яна бяз памяці!

Проска (на бок). — Хоць фальшывае, але цяжкае палажэньне... (да Янкі). Яна, паночку, усю ноч ні спала.. Сама с сабой гаманіла... Крыўдзілася на вас, што хочэцэ ад'ехаць некуды... А раненька атруцілася!..

Матка (на бок). — Каб цябе пярун лепі!.. Гэдак заврцеў галаву беднай...

**Янка** (ходзючы). — Ах, каб я мог ратаваць!.. Усё аддаў ба!

**Матрунка** (слаба). — І самога... сябе?

**Янка** (да маткі)· А! гукае! (да Матрункі) Далі Бог—і самога сябе! Матруначка наймілейшая! Каб жа ты паздаравела!

**Матрунка** (цягне да яго рукі). — Толькі дзеля цябе рада жыць...

**Янка** (абымае і цалуе). І будзем жыць!

**Матрунка**. — Крыху вады!..

*Заслона.*

## АКТ III.

Пакой; абстаноўка чыноўніка.

### ЗЬЯВА І.

Матруна замужняя — шые на машынцы.

**Матруна**. — Німа ніякае ахвоты працаваць; ня цешыць жыцьцё.. Сколькі гадоў з Янкам жывём і німа ладу (устае і ходзіць прад люстрам).

### ЗЬЯВА II.

Суседка Плётка.

**Плётка**. — А, дзень добры пані Матруні! Дзе падзеўся муж?

**Матруна**. — Німа, нешта, са службы.. Позьніцца ужо цэлых паўгадзіны...

**Плётка** — Ім нельга верыць... (ціха) Швэндаецца дзе небудзь; учора спаткалі людзі, ішоў падручку з Каранеўскай па парку... а каторага дня, тутака, ня помню, дык і абедняй парой спаткалі яго з тэй самай...

**Матруна** (на бок). — За тоя німа і ладу у нас...

**Плётка**. — Глядзіця вы за ім! Ні дайця волі яму!

**Матрунка** (задуманна). — Як гэта зрабіць?

**Плётка**. — Зрабіця гвалт пры людзёх раз—другі, дык і зьменіцца, палепшае.

### ЗЬЯВА III

Уваходзіць Янка.

**Янка**. — Добры вечар!

**Плётка**. Вечар добры! (да Матруны). — Ну дык да заўтрага... Я пайду... Бывайця здаровенькі (выходзіць).

**Янка** (садзіцца). — Ах, змарыўся я сёньня! Цэлы дзень адсядзеў у канцэлярыі... Німа апэтыту да яды... Німа ахвоты да жыцьця...

**Матрунка** (груба). — За тое ёсць ахвота спацэраваць з чужымі жонкамі...

**Янка**. — Што кажэш, Матруша? Ці ты мяне дагэтуль ня ведаеш?

**Матруна**. — Я то ня ведаю; за тое ведаюць аб табе іншыя!

**Янка**. — Кінь ты гэткую гаворку, — ніякай карысьці ад яе — толькі падражненьне нэрваў.

**Матруна** (насьмешліва) — А табе прыемней мець дражненьне з Каранеўскай?! (сярдзіта). Ты Латрыга! Скалазуб! Пустая галава!

**Янка** (сярдзіта) — Што?! У сваім ты розумі?

**Матруна**. — Валачуга! Валачуга! Пад..

**Янка** (прыдушана). — Змоўкні, бо людзі чуюць! Ах, каб цябе!

**Матруна**. — Паеду ад цябе! Прападзі ты! (Рыхтуецца).

**Янка**. — Ідзі сабе, куды хочаш, абрыдлае стварэньне! Даўно пара!

**Матруна**. — Не, не так адразу! Пазаву паліцыю ды забяру ўсе рэчы! Хварэць ты будзеш!

**Янка** (нэрвова). — Ага, ты і на гэта здатна?! Вон! Вон! (выпіхае за дзьверы).

**Матруна** за дзьвярмі. — Каравул, забіў! Паліцыя!

**Янка**. — Вось няшчасьця! Колькі гадоў ужо жыву з ей і німа ніякай радасьці. Гвалты за гвалтамі спраўляе і стыду німа!.. Ажаніўся—што атруціўся! (размышляе ходзючы) ...Гэдак было добра аднаму, вольна, вясёла.. Цяпер — пашла за паліцыяй! (Скрабе са злосьці патыліцу) Цікава, што брат Аляізы піша з дому?.. (дастае ліст) ...„Гарача любімы браток. Янка! ..асьмелюся:. (чытае невыразна) ...Як ты жывеш з Матрункай? Ці ладзіця вы? Твая цёшча нідаўна хвалілася, што цябе сьмехам—жартам апуталі. Матрунка нібы-то труцілася, вядома, фальшыва". — А вось... прычына... (прыпамінае) ... Вось апуталі! (чытае) ...„А можа будзеця жыць шчасьліва..." А-а-а! вось... (стук).

### ЗЬЯВА IV.

Уваходзіць Матруна і паліцэйскі.

**Янка**. — Ага, прыйшла! (хаваючы ліст,—на бок) — То то і ёсьць, што зроблена фальшыва — тое нешчасьліва.

*Заслона.*

**А. Васілеўскі.**

---

# Грамадзяне!

Ад далейшае падпіскі і ад Вашае зацікаўленнасьці залежыць жыцьцё „Авадня".

Чытайце і пашырайце сваю часопісь паміж знаёмых; прысылайце перадплату.

З гэтага № „Авадня" дарма нікому не пасылаем.

Дзеж гэта відана каб што добрае дарма вам пасылалася!

Не да таго папала...




— Ці мне распранупца зусім?

— Як пані лепей.

— І кашулю скінуць?

— Калі маеце ахвоту... Але бачу, што Вы лічыце абмылкова мяне за доктара... Доктар жыве этажом вышей. *„Le Ryre Parys“*.

Добра атказаў.



— Бэрка, куды той самаход едзе?

— Аткуль вы ведаеце што я Бэрка?

— Я так... дагадаўся...

— Ну дык проша дагадацца і аб самаходзе, куды ён едзе.

## Нашы дзеці.

Бацька з сынам разглядаюць малюнак, на каторым нарысована: „Бой быкоў у Гішпаніі„. Сын пытае: „На што, тата, дзяцюк за барьерай махае чырвоным флягам перад вачыма быкоў?“ Бацька: „Гэта дзеля таго, каб горш раздражніць быкоў, бо чырвоны колер надта дражніць жывелу“. „Ага, ведаю,—дагадаўся сын. „Мама заўсёды, як прыходзіць да нас у госьці камэндант, мажа сабе шчокі чырвонаю хварбаю, гэта, каб—больш яго падражніць“.

## У судзе.

Судзьдзя да вінаватага.—Вы прызнаеце сябе вінаватым, што абразілі пана Казлоўскага, назваўшы яго дурнем?

Вінаваты. — Якая-ж гэта абраза, калі ён папраўдзе дурны.

Судзьдзя. — Усё роўна няможна, гэта ёсьць зьнявага асобы.

Вінаваты. — Ну, а як дурня ды назваць разумным, гэта ня будзе зьнявага? Гэта можна?

Судзьдзя, — Гэта можна.

Вінаваты. — Ой, о, ей, пане судзьдзя, які-ж разумны!

## Свая почта.

Перадплата на „Авадня“ атрымана: ад І. Сабалеўскага і Шыка Г. — па 2 зл.; К. Юхневіч, Ф. Янкоўскі, І. Цыбоўскі, Більдзюкевіч, В. Мацкевіч, Баравік, В. Грышкевіч, В. Малей, І. Сабыніч, Еленскі; Продухо, Кс. Семашкевіч, Кудэйка, Клімантовіч, Я. Морозэвіч, П. Зеновіч, П. Тымашэвіч, Б. Супрановіч, К. Матэшук, П. Сэркевіч—прыслалі па 1 зл. 80 гр.; А. Кадушкевіч і П. Шабуня—па 1 зл.

Па падпіснаму лісту ад А. Б.—55 зл.

Ад мастака і пісьменьніка Я. Драздовіча атрымалі колькі, надта цікавых, рысункаў, якія будуць скарыстаны ў № 3.

Апрача гэтага шмат атрымана матэрьялаў ад чытачоў; шчыра дзякуем ўсім і на далей прыймаем падпіску, грошы і матэрьялы.

*Рэдакцыя.*

Кожны новы падпішчык—гэта ўжо прыяцель „Авадня“ і добры грамадзянін.

Рэдактар-Выдавец А. ВАСІЛЕЎСКІ.

Rys. Lit. Maca Wilno, Dąbrowskiego 3. Druk Spółdz. wytw. w Wilnie, ul. Gdańska 3.